Маладзечна. Вілейка. Смаргонь. Ашмяны. Валожын. Мядзел. Астравец. Мінск

# Рэгіянальная газета

6 - 12 САКАВІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
3000 РУБЛЁЎ
№10 (150)

## Са святам, мілыя жанчыны!



ФОТА В. ЮРКАВЕЦ.

**Напярэдадні Дня жанчын рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" распачынае новы - веснавы - конкурс фотамадэляў рэгіёна.**

*Адкрывае яго Таня са Смаргоні. Дзяўчыне 18 год, рост - 170, вага 52.*

*- Спадзяюся патрапіць на першую старонку вашай газеты і выйграць конкурс, - піша яна.*

АДНА ЗЯМЛЯ

АСТРАВЕЦ

## Неўтаймаваны грып

Пасля мінулых выхадных ля кабінетаў тэрапеўтаў не было дзе яблыку ўпасці. Толькі ў панядзелак, як сведчыць адзін з тэрапеўтаў, да яго на прыём завіталі амаль пяцьдзесят хворых.

Паўсюль грып саступае свае пазіцыі, а ў Астраўцы толькі пачынаецца?

**Алесь СВІРЧУКОЎ.**

## Работа для дзесяці

У мясцовага прадпрыемства меліярацыйных сістэм з'явілася работа. Сёлета яно будзе займацца ачысткай саджалкі ў райцэнтры, у калгасах "Чырвоны Кастрычнік" і імя Мічурына правядзе меліярацыйныя работы.

Дзеля гэтага спатрэбілася дадаткова дзесяць рабочых, якія, у сваю чаргу, займелі пастаянную работу.

**Алесь СВІРЧУКОЎ.**

## Меліяратары рамантуюць аўтамабілі

У прадпрыемстве меліярацыйных сістэм №59 пад новую паслугу пераабсталявалі незадзейнічанае памяшканне. Устанавілі камеру для афарбоўкі аўтамабіляў. Акрамя гэтага, займаюцца дробным кузаўным рамонтам і зварачнымі работамі. Рамантуюць не толькі "Жыгулі", "Масквічы" ці "УАЗы", але і "Мерседэсы" ды "Опелі".

На новай вытворчасці занятыя чатыры чалавекі, якія нават прыносяць прыбытак у бюджэт прадпрыемства. З кліентамі таксама ўсё ў парадку, бо па іх віне прастойваць рабочым не даводзілася.

**Алесь СВІРЧУКОЎ.**

МАЛАДЗЕЧНА

## Зарплаты і стыпендыі

У мінулую нядзелю прайшоў справаздачна-выбарчы сход мясцовай народнафронтаўскай арганізацыі.

Удзельнікі абмеркавалі праграму далейшых дзеянняў. Свае прыярытэты яны аддалі маладзёжнай і сацыяльна-эканамічнай сферы. Вырашана ствараць грамадскія суполкі БНФ "Адраджэнне" на прадпрыемствах, у працоўных і навучальных установах, якія б падымалі, галоўным чынам, хвалюючыя ўсіх пытанні. Да прыкладу, памер і пакупніцкую здольнасць атрымліваемых зарплат і стыпендый.

**Алесь КАНЧАНСКІ.**

СМАРГОНЬ

## Дыплом для вёскі. І грошы

На абласным аглядзе-конкурсе на лепшы населены пункт вёска Бялкоўшчына выйшла пераможцай. У якасці падарунка - дыплом І ступені і прэмія ажно ў 30 мінімальных зарплат.

Акрамя гэтага аблвыканкам адзначыў вялікую работу па добраўпарадкаванні вёскі Вішнева і самога райцэнтра. Магчыма, у наступным годзе стаць першымі пашчасціць ім.

**Алесь СВІРЧУКОЎ.**

ВІЛЕЙКА

## Каманда мары

На міжраённых спаборніцтвах школьных інтэлектуальных клубаў рэгіён прадстаўлялі вілейчане - каманды "Dream team" і "Альфа" з Ільянскай СШ. На месца правядзення ў гарпасёлак Узда прыехалі 13 камандаў.

Прадстаўнікі беларускай лігі інтэлектуальных клубаў прывезлі дзве каманды з мінскіх школ і яшчэ адну - з ліцэя пры БДУ. Асноўны залік праводзіўся па ўдзеле ў "Што? Дзе? Калі?" Прапанаваліся пытанні гістарычнага накірунку, з раздзелаў "Спорт", "Армія". "Dream team" заняў 5 агульнакамандное месца.

**Аддзел інфармацыі.**

НАПЯРЭДАДНІ СВЯТА

## Мільён алых руж. Па чым?

*МАЛАДЗЕЧНА. Кожная жанчына на свята чакае жывыя кветкі. У асноўным, іх вязуць сюды ў герметычных упакоўках з Польшчы. Ля фабрыкі музычных інструментаў утвараецца зялёная вуліца.*



ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА

| Кветкі | (будзённая/святочная цана ў тыс. руб. за 1 шт.) |
|---|---|
| Ружа | 30-140/50-150 |
| Гваздзік | 25-40/35-50 |
| Цюльпан | 25-30/30-40 |
| Гербера | 60-70/70-80 |
| Лілія | 100-145/160 |
| Архідэя ў каробках | 100-120/110-130 |
| Галінка архідэі | да 700 |
| Хрызантэмы (букет) | 80/90 |
| Афармленне | да 50 |

Раю мужчынам паспяшацца з выбарам, бо на 23 лютага кветак не хапіла.

**Таццяна МІР.**

## Здабытчыкі? Здабытчыцы?



*МАЛАДЗЕЧНА. За некалькі дзён да свята насельніцтва бегае па магазінах у звычайным рытме. Хто ж на самой справе ў сям'і здабытчык? Гадзіну падлічвала наведвальнікаў гандлёвага дома "Маладзечна" і яшчэ адну - універсама "Чыгуначны".*

| | ГД "Маладзечна" | "Чыгуначны" |
|---|---|---|
| жанчын | 408 | 306 |
| мужчын | 240 | 132 |
| дзяцей | 117 | 35 |

**Вольга ПАСЛЕД, фота Сяргея КАПЫЛОВА.**

З ДАПАМОГАЙ НАСЕЛЬНІЦТВА?

## Бывай, мой шэры сябра

*МАЛАДЗЕЧНА. Ліквідаваць бадзяжных сабак і катоў улады мяркуюць з дапамогай насельніцтва. Гарвыканкам вызначыў узнагароджанне за 1 здадзенага сабаку ў 2 кг цукру. За ката - 1 кг. Абсталююцца месцы "тавараабмену".*

Аднымі з першых на такое рашэнне адрэагавалі музыканты маладзечанскага гурта "Рэактар". У **Леаніда Барценева** дома цямецкая аўчарка Фрэд. У **Мікалая Шкета** - дварняга Ахламон. А **Яўген Шкадун** трымае ката Барсіка. Ахламон і Барсік часцяком самастойна бегаюць па двары, нагульваючы апетыт.

Хлопцы склалі песню "Саладкі сабака", якую ўключылі ў праграму выступлення ў сталічным маладзёжным клубе "Касмапаліта́н".

*Стало в сахарнице пусто,*
*В кошельке опять не густо...*
*Что ж, прощай,*
*Лохматый брат.*
*Нужен к чаю рафинад.*

**Сяргей АНДРЭЕЎ.**



ФОТА З АРХІВА "РГ"

8 САКАВІКА

## І галінка суніцы - падарунак. Калі кахаеце

*ВІЛЕЙКА. Работнік райвыканкома Таццяна Цітуленка чакае ў Дзень жанчын нейкага цуду ад сваіх дамашніх. Традыцыйна будуць кветкі, а ў падарунак, можа, і нешта з магазіна ці самаробнае.*

А наогул самы дарагі падарунак за жыццё - галінка суніцы з сакавітымі чырвонымі ягадкамі, якую будучы муж паклаў Таццяне на падушку. У той час прыгожая дзяўчынка здымала пакойчык у сваёй патэнцыяльнай свекрыві (!).

На той час нейкай размовы пра шлюб не было. Раптоўна ў сакавіку ўзнікла ўзаемнае пачуццё. А летам, як падарунак, была прынятая галінка суніцы.

**Васіль САВІЦКІ.**

## Каля чатырох тысяч жанчын служаць ва Узброеных Сілах Беларусі

***У гэты час на розных пасадах у беларускім войску праходзяць службу каля чатырох тысяч жанчын, што складае прыкладна 5 працэнтаў ад агульнай колькасці Узброеных Сіл рэспублікі.***

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе ваеннага ведамства, асноўную частку жанчын-ваеннаслужачых складаюць кантрактніцы, аднак нямала ў іх ліку прапаршчыкаў і афіцэраў — больш за 600 і 60 чалавек адпаведна. Самае высокае званне — "падпалкоўнік" — сярод жанчын-ваеннаслужачых на працягу апошніх некалькіх гадоў было ў **Надзеі Гумянкі**, якая служыць у адным з ваенкаматаў Брэста. Аднак зусім нядаўна званне падпалкоўніка атрымала намеснік Лідскага аб'яднанага гарадскога ваенкама камісара **Надзея Муліца**.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

СТАРЫ АЛЬБОМ





Якімі мы былі маладымі! Гэтыя фатаграфіі з сямейнага альбома **Рэгіны Адамаўны Вянгроўскай** з Дравянікаў, што на Астравеччыне. Вільня, прыкладна 1914 год. Мясцовы жыхар пан Тарашкевіч (фота злева) ажаніўся і завітаў да фатографа. Немудрагелісты спецыяліст "паставіў кадр": рука маладога, букет кляновага лісця знаходзяцца там, дзе паказаў маэстра. Шлюбнае ўбранне для маладой знайшлося ў фотамайстэрні. Фатограф не быў вялікім фантазёрам. Побач другі кадр, з таго ж альбома— тая самая пастаноўка, тыя самыя выразы твараў. Толькі людзі іншыя. Але памяць дарагая ў любым выпадку.

# Чырвоныя ружы ў сколатых руках

***МАЛАДЗЕЧНА. 15 разоў Дзень жанчын Людміла Бабовіч сустракала за кратамі. Ёй, афіцэру МУС, на той час начальніку атрада лячэбна-працоўнага прафілакторыя, начальніку спецчасці кожнае свята даводзілася працаваць па ўзмоцненым рэжыме. Асабліва ёй помняцца апошнія дні перад пачаткам Алімпійскіх гульняў у Маскве. Тады тэрыторыю Масквы, іншых гарадоў ачышчалі ад бамжоў, алкаголікаў, прастытутак. Везлі гэты кантынгент і да іх, у Нараўлянскі ЛПП.***

Выпускніца Мазырскага педінстытута Людміла Бабовіч 5 гадоў адпрацавала ў сярэдняй школе. Яе ўрокі выкарыстоўвалі ў рэспубліцы як прыклад распрацоўкі новай праграмы - развіццёвага навучання. А неўзабаве жанчына стала міліцыянерам.

Прафілакторый мала чым адрозніваўся ад турмы - рэжым, праца, выхаваўчая работа. 15% жанчын, што пасля лячэння і адседкі станавіліся на шлях ісціны, адвавала ў крымінальшчыны менавіта Людміла Леанідаўна. Міністр унутраных спраў генерал-лейтэнант Піскароў уручаў ёй імянны гадзіннік, ганаровы знак за выдатную службу. А жанчыны спецкантынгенту ні разу не называлі свайго выхаваўцу на "ты" - паважалі.

Сярод "хворых" зрэдку сустракалася інтэлігенцыя. Траплялі за краты ўрач-кардыёлаг, спартсменкі-чэмпіёнкі. На святы жанчыны звычайна рыхтавалі канцэрт самадзейнасці. Лепшым з іх давалі спатканне. Нейкіх салодкіх сталоў не было.

У першыя дні пасля Чарнобыльскай катастрофы муж Людмілы, таксама афіцэр МУС, "тушыў" рэактар. Начальства сказала - паехаў на "курсы павышэння кваліфікацыі". І пасля 4 гады сям'я працавала ў ачагу (Нароўля ў 40 км ад Чарнобыля). Дзяцей, праўда, адправілі да бабулі ў Гомель.

Сёння многа калег, сяброў пайшлі з жыцця ў росквіце гадоў. І ў саміх Бабовічаў узніклі праблемы са здароўем. У 90-м усё ж змаглі з'ехаць далей ад рэактара - пераявіліся ў Маладзечна.

Людміла працавала інспектарам папраўчых работ. Дапамагала аступіўшымся ўладкавацца на работу, назірала, каб тыя працавалі, адлічвалі 20 працэнтаў дзяржаве (па рашэнні суда). Смешных і сумных выпадкаў з практыкі было дастаткова.

У 5 раніцы бегла затрымліваць наркамана... Каб зайсці ў прыватны дом, сабаку пакарміла кілбасой, бо не падпускаў да дзвярэй... Зняла туфлі з абцасамі і, прыгнуўшыся за газонам, высочвала неплацельшчыка.

Аднойчы на 8 сакавіка ў кабінет Маладзечанскага РАУС да Бабовіч завітаў былы асуджаны. Стаяў, хаваючы за спінай паколатыя рукі. А ў іх трымаў чырвоныя ружы:

- Не хвалюйцеся, купіў! Ведаеце, ніколі са мною не размаўлялі так, як Вы. Нават на зоне.

***Васіль САВІЦКІ.***

КУЛЬТУРА

**МАЛАДЗЕЧНА.** У школе мастацтваў у аўторак адрылася выстаўка карцін ранняга перыяду творчасці **Кастуся Харашэвіча**. Летась мастак адзначыў сваё сямідзесяцігоддзе і гэта выстаўка з'яўляецца працягам шэрагу юбілейных мерапрыемстваў.

Тут прадстаўлены жывапісныя работы на гістарычную тэматыку, лірычныя эцюды... Мастак, наколькі гэта магчыма, пастараўся перадаць праз сваё бачанне нашу гісторыю, краявіды нашай зямлі. Канстанцін Іванавіч яшчэ хлапчуком ездзіў з бацькам па наваколлі, быў у мястэчках, на кірмашах у Валожыне, Маладзечне. Менавіта ўспаміны прадыктавалі тэму карціны "Каля млына"-рабочы момант ля ветрака, якіх на нашай зямлі ўжо не ўбачыць. Цікавая гісторыя стварэння карціны "Выступленне **Браніслава Тарашкевіча** перад сялянамі Заходняй Беларусі", дзе ўгадваюцца абрысы Старога Места ў Маладзечне. Але аб гэтай і іншых гісторыях мы раскажам пазней.

***Мікола ГАЙДУК.***

**АШМЯНЫ.** Па ініцыятыве жаночага савета горада і аддзела сацыяльных праблем і грамадска-палітычнай інфармацыі райвыканкома і пры непасрэдным творчым удзеле супрацоўнікаў раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра 3 сакавіка ў рэстаране "Беларусь" быў наладжаны "агеньчык" для лепшых жанчын-працаўніц.

●Дню беларускай міліцыі быў прысвечаны святочны канцэрт самадзейнасці, што адбыўся 3 сакавіка ў раённым доме культуры.

●Эстрадная шоў-праграма "Сказанье о прекрасной половине" падрыхтаваная сіламі мастацкай самадзейнасці да Дня жанчын, святкаванне якога адбудзецца 6 сакавіка ў раённым доме культуры.

●Дарэчы, да гэтага свята рыхтуюцца ўсе клубныя ўстановы раёна.

**СМАРГОНЬ.** Два дні доўжылася ў горадзе свята "Масленіца гадавая, гасцейка дарагая" з традыцыйнымі блінамі, спальваннем чучала Зімы, забаўляльнымі праграмамі, бяспройгрышнымі латарэямі, гандлёвымі радамі, канцэртамі.

●Дабрачынны канцэрт для пажылых людзей, ветэранаў працы, інвалідаў адбыўся 5 сакавіка. Ініцыятыва правядзення належала райвыканкому, а канцэрт быў падрыхтаваны лепшымі мастацкімі калектывамі і ўдзельнікамі.

●Святочны канцэрт да свята жанчын пройдзе 6 сакавіка ў гарадскім доме культуры.

**МАЛАДЗЕЧНА.** "Міс Чароўнасць-98" - пад такой цудоўнай назвай праходзіў 5 сакавіка конкурс для дзяўчат у ПТВ-21.

***Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.***

АСТРАВЕЦ

# Суд не супраць.

## Заняцца гандлем

***Мясцовы камбінат будаўнічых матэрыялаў "заляцеў".***

Яшчэ ў 1995 годзе прадпрыемства ўзяло ў аддзяленні "Беларусбанка" крэдыт і поўнасцю не змагло разлічыцца - вінаватае больш за 200 мільёнаў рублёў. І цяпер, выконваючы рашэнне Вышэйшага гаспадарчага суда, мясцовы нарсуд займаецца распродажам апісанай маёмасці камбіната, сярод якой мяккія куткі, шафы для спецадзення, дзёгцевая папера.

Сённяшнім часам, як відаць, суды не толькі судзяць, а і гандлявацъ вымушаныя.

***Алесь СВІРЧУКОЎ.***

ЮБІЛЕІМ

# Ветер наши знамёна колышет

***МАЛАДЗЕЧНА. Днямі калгас "Бацькаўшчына" адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе. У вёсцы Гарнякі сабраліся ветэраны калгаса, сённяшнія работнікі гаспадаркі, госці. Адкрыў урачыстую частку фальклорны калектыў "Рыбчанка" з вёскі Сычавічы песняй мясцовай аўтаркі Соф'і Нарубень "Здравствуй, наш Лукашенко родной!": Ветер наши знамёна колышет, Пусть же наш Лукашенко услышит Эту песню с колхозной земли...***

Сёння старшынёй "Бацькаўшчыны" з'яўляецца **Міхаіл Есмантовіч**, дэлегат першага з'езда Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якое ў свой час узяло патранаж над калгасам "Шлях Леніна" і "падзяліліся" з ім сваёй назвай.

Гісторыя захавала звесткі аб першых пасляваенных гадах на сённяшняй зямлі калгаса. У вёсцы Радзеўцы калгас імя Калініна (цяпер уваходзіць у склад калгаса-юбіляра), сабралі па 13 цэнтнераў пшаніцы з гектара, бульбы 150, караняплодаў 220. Леташні ўраджай "Бацькаўшчыны" быў такім: збожжавых сабралі па 19,8 цэнтнера з гектара, Бульбы 86,9, караняплодаў 163,3.

Першы калгас на гэтай зямлі створаны яшчэ ў 1940 годзе. Старшынёй быў **Андрэй Герасімчык**. Насіў папярэднік сённяшняй "Бацькаўшчыны" імя Сталіна.

***Якім ПЯРЭЧКА.***

ГАСЦЁЎНЯ "РГ"

# Аляксандр Лукашук: "Радыё Свабода разумее значэнне Маладзечанскага рэгёна для Беларусі..."

***На пытанні журналіста Алеся Сергіевіча адказвае намеснік кіраўніка Беларускай Службы Радыё Свабода Аляксандр Лукашук, які цяпер знаходзіцца ў камандзіроўцы ў Беларусі.***

- Што азначае для Вас асабіста, як для чалавека, для асобы, Маладзечаншчына?

- Я даволі часты госць на Маладзечаншчыне. Мая жонка з Радашковічаў. Толькі што я наведаў яе родзічаў у гэтым мястэчку. Дык вось, вярнуся з камандзіроўкі ў Прагу - раскажу пра свае апошнія ўражанні ад убачанага тут.

- Што ж Вам цікавага, адметнага кінулася ў вочы?

- Напрыклад, тое, што цераз рэчку Гуя будаўнікі, нарэшце, перакінулі з берага на бераг новы мост. Перад тым зліквідаваўшы стары, зроблены яшчэ за палякамі. Дарэчы, гэты, ранейшы, мост дзеля разбурэння не брала аніякая цяперашняя тэхніка. З усёй вобласці прыязджалі спецыялісты сюды, да "польскага" маста і ледзь-ледзь неверагоднымі намаганнямі немалой грамадой паламалі яго. Хочацца верыць, што і новы мост будзе вось такі трывалы, як папярэдні...

- Ну, гэта, так бы мовіць, уражанне з пэўнай сферы матэрыяльнага існавання рэгёна ў тых жа самых Радашковічах...

- Зразумела, зразумела, журналіста не могуць не цікавіць больш тонкія матэрыі. Дык вось, для мяне асабіста Маладзечаншчына - край **Янкі Купалы**, тут працаваў такі закладальнік беларускасці як **Браніслаў Тарашкевіч**. І сёння, нягледзячы на моцны наступ русіфікацыі ў самых разнастайных галінах і сферах чалавечай дзейнасці, адчуваецца, што ў Маладзечанскім рэгёне выкарчаваць беларушчыну не ўдаецца. Я лічу, мы, журналісты, павінны адшукаць яшчэ не адышоўшых у нябыт сучаснікаў гэтых закладальнікаў беларускасці, якія ведалі і Купалу, і Тарашкевіча. Трэба запісаць іхнія расповяды, успаміны.

Хачу нагадаць, што тут яшчэ жыве жонка Браніслава Тарашкевіча. І мне здаецца, будзе недаравальна, калі мы, журналісты, яе абыдзем сваёй прафесійнай увагай, калі яе ўспаміны не патрапяць на старонкі друку або ў эфір.

- Трэба заўважыць, што Радыё Свабода не абыходзіць увагаю Маладзечна і Маладзечанскі рэгён.

- Так. Беларуская служба РС якраз карыстаецца тарашкевіцай, аўтар якой жыў тут. Гэта рэгён вельмі прыгожай мовы. Рэгён **Максіма Багдановіча**. У нас працуе на Радыё Свабода калега Данчык, якога так любяць у Беларусі і які мае пэўныя сувязі і карэнні, звязаныя з родам Багдановіча. І заўсёды Маладзечаншчына - зямля асаблівая. Тое, што мы расказваем усяму беламу свету (і даволі рэгулярна) пра ваш рэгён, як, уласна, і пра іншыя рэгёны краіны, - не выпадковасць. У нас працуе, існуе цэлы інстытут рэгіянальных карэспандэнтаў, якія ездзяць па Беларусі, па вось такіх невялічкіх мястэчках, як Радашковічы, ды збіраюць інфармацыю, што не сустрэнеш ні ў дзяржаўных, ні ў незалежных СМІ, выдаваных у Менску, у іншых буйных гарадах. Гэтыя рэдакцыі ўсётакі больш акцэнтуюць сваю ўвагу на больш-менш маштабнай інфармацыі, распавядаю-

# Французская мода на нашых вуліцах


ФОТА ІГАРА ЛАМАКІ

***МАЛАДЗЕЧНА. Абласны конкурс цырульніцкага майстэрства сабраў 50 майстроў. На жаль, наш рэгіён прадстаўлялі лепшыя толькі з Маладзечна, раёна і Мядзельшчыны. Жаночыя майстры спаборнічалі ў "вячэрняй прычосцы", "прагрэсіўнай стрыжцы-прычосцы". Па-за конкурсам ішла "прэстыжная нявеста". Цырульнікі-мужчыны рыхтавалі "мастацкую" і "класічную".***

Перад пачаткам выступіў намеснік старшыні мясцовага гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**:

- Не крыўдуйце, але першыя месцы будуць за нашымі...

Як у ваду глядзеў. Сярод 12 прызавых месцаў - 7 у маладзечанак. Гэта **Ірына Фаміна, Людміла Абрамовіч, Іна Чаеўская, Алена Галавацкая, Таццяна Блізнюк, Іна Блізэ, Лідзія Цеціна.**

Лепшым жа стала вядомая нават на міжнародным узроўні майстар з Барысава **Ала Бабіцкая**. Цяпер на яе рахунку паказ свайго майстэрства не толькі ў Парыжы, Афінах, але і ў Маладзечне.

*Аляксей БАГАВЕЦ.*

## БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 25.02 | 4.03 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 78 | 78 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 265 | 265 |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 78,9 | 78,9 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 42,2 | 42,2 |
| Рыс | 1 кг | 24 | 24 |
| Цукар | 1 кг | 22,7 | 22,8 |
| Грэчка | 1 кг | 26 | 26 |
| Алей | 1 л | 51 | 51 |
| Яйкі курыныя | 10 | 28,2 | 27 |
| Маянэз | 250 г | 14 | 14 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 62 | 62 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 21 | 20,5 |
| Соўс там. "Мінскі" | 0,5 л | 21 | 22 |
| Лімоны | 1кг | 47 | 47 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | 25 |
| Масла | 1 кг | 80 | 75 |
| Тварог | 1 кг | 30 | 30 |
| Малако | 1 л | 9 | 8 |
| Бульба | вядро | 65 | 65 |
| Яйкі курыныя | 10 | 35 | 30 |

## САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-9.*

Вялікая ўвага надаецца "бюро наведвальнікаў", задача якога складаецца ў прывабным "паднясенні" горада для наведвальнікаў. Тут лічаць, што гэта вельмі важна для эканомікі: кожны новы ўкладзены долар дапамагае на 1 долар 70 цэнтаў.

Таму і не дзіўна, што найбольш прыбытку прыносіць культурны цэнтр - канцэрты, спектаклі, оперы (запрашаюць артыстаў нават з Брадвея), цырымоніі ўзнагароджання (да прыкладу, за дасягненні ў вытворчасці прадуктаў харчавання для ўсяго свету) прыцягваюць людзей, якія выдзяляюць грошы на правядзенне мерапрыемстваў, развіццё той ці іншай галіны.

А вось цэнтр мастацтва (будынак, дзе праводзяцца выстаўкі) грошай мае малавата.

Наогул жа, больш канкрэтная размова пра некаторыя беспрыбытковыя неўрадавыя арганізацыі наперадзе. Зазначу толькі, што яны выконваюць практычна тыя самыя функцыі, што і многія нашы бюджэтныя ўстановы. Асноўная розніца ў фінансаванні і дзейнасці. Калі нашы бюджэтнікі атрымліваюць толькі крошкі з барскага стала, за якія і справаздачы трымаць сорамна, то тамтэйшыя NGO сродкі маюць звычайна толькі пасля ўдзелу ў конкурсе і атрымання гранта (для гэтага патрэбная дакладная праграма развіцця і дзейнасці, а не "правесці сход, наладзіць выстаўку, падрыхтаваць канцэрт") - ад штата, федэралаў.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

*Працяг будзе.*

# Вынікі

***У 1992 годзе мы пайшлі ў першы клас маладзечанскай школы №3. Наш клас быў такі шумны і непаслухмяны, што першая настаўніца Ванда Станіславаўна Маркевіч называла нас "Вынікі Чарнобыльскай аварыі" (мы 1985-86 гадоў нараджэння). Але ўжо да канца першага класа настаўніца зрабіла з нас людзей.***

Праз тры гады наша сям'я пераехала ў Смаргонь. У старой школе мы былі выдатнікамі, і ў новай школе, дзякуючы выхаванню нашай першай настаўніцы, мы не адстаем.

Цяпер мы ходзім у шосты клас, але сваю першую школу мы не забылі. І сваю першую настаўніцу мы таксама часта ўспамінаем.

Мы віншуем яе са святам вясны. Жадаем шчасця і паменей бедаў. Здароўя Вам, Ванда Станіславаўна.

*Антон і Ягор МАЛЬШЭЎСКІЯ.*

# Мелі мільярды. Чакаем "шыш"

***СМАРГОНЬ. Даволі ўдала праходзілі летась у мясцовым лясгасе 7 аўкцыёнаў па продажы лесу на пні. З выстаўленых больш за 40 тысяч кубаметраў драўніны было прададзена больш за трыццаць.***

- У большасці ў аўкцыёнаў удзельнічалі мясцовыя фірмы і прадпрыемствы, прадпрымальнікі, - зазначае начальнік аддзела лясной гаспадаркі прадпрыемства **Аляксей Гурскі**. - Аднойчы прадстаўнікі літоўскай фірмы купілі некалькі кубаметраў. Засталіся незадаволеныя і яны, і мы - узнікла мноства фармальнасцяў з мытным афармленнем. Мусіць, гэта адбіла ў іх ахвоту на ўдзел у падобных аўкцыёнах.

Але ж лясгас ад аўкцыёнаў атрымаў летась 1,6 мільярда рублёў прыбытку. Праўда, ад гэтага ён не атрымае ніводнай тысячы, бо ўвесь прыбытак накіроўваецца ў рэспубліканскі бюджэт. На гэты конт паступілі пэўныя ўказанні. Вось і лічыце сабе, ці будуць лесаводы ахвочыя да аўкцыёнаў, калі рахунак не будзе папаўняцца грашовымі знакамі?

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

## ПАРАДЫ МУЖЫКАМ

МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні аднаго з самых сардэчных святаў многія мужчыны маюць праблему, дзе і што купіць у падарунак сваім каханым. Таму некалькі парад.

Звычайныя ў такіх выпадках падарункі: шампуні, ласьёны, туалетная вада. Каб набыць сапраўды цудоўнае, трэба выкласці мільёны з тры.

Купіць нешта з адзення для большасці мужчынаў нерэальна, бо ні памеру, ні любімага колеру яны не ведаюць.

Падарунку тыпу пральнай машыны, пыласоса ці электрапечкі будзе радая любая жанчына: яны аблегчаць працу менавіта ёй. Але падобная тэхніка і каштуе нятанна. Таму калі вырашыце дарыць "нешта такое", то не рабіце тайны, а выбіраць ідзіце разам з жонкай - не будзе скаргаў.

Падарункі "з сэнсам" - відэакасету з гарачай эротыкай купіць можна, але не кожнай. Такім жа сюрпрызам з намёкам можа аказацца і кніга па бухгалтэрыі: як плаціць падаткі.

Крутыя падарункі тыпу аўтамашыны ці набору швейцарскіх каструляў за тры штукі зялёных будуць успрынятыя з радасцю. Але гэтым захапляцца не варта.

Нарэшце, галоўнае. Калі гэта будзе проста букет кветак, вы падкрэсліце сваё каханне да вашай любімай жанчыны.

*М. А.*

# Край свету перад вёскай прайшоў

***СМАРГОНЬ. Вёска Маркоўцы добра вядомая сваімі грыбнымі ды ягаднымі мясцінамі. Ёсць перспектыва "праславіцца" яшчэ і жахлівай трагедыяй, калі абваліцца аднойчы мост або зваліцца з яго ў амаль дзесяціметровую прорву які-небудзь аўтамабіль. Бо пабудаваны мост, кажуць мясцовыя жыхары, яшчэ пры Польшчы.***

Дрэва згніло, даламала яго як калгасная тэхніка, так і вайсковая, што не аднойчы рушыла праз мост на вучэнні. А вось рамантаваць гэты стратэгічны аб'ект няма каму. Ні пажарная, ні аварыйная, ні машына хуткай дапамогі да Маркоўцаў не дойдуць.

Напісала пра гэта ў мясцовай газеце. Рэагаванне было хуткае: на праломы маста кінулі пару бярвенняў. Шкада, што праз тыдзень ад такога рамонту толькі трэскі паляцелі. А праз месяц знайшлося новае выйсце: на пад'ездзе да маста ДАІ ўстанавіла знакі. Адзін сведчыць, што праезд забаронены, другі - наперадзе тупік.

Вось так маркаўчане жылі і не ведалі, што край свету не дзесьці далёка, а якраз перад іх вёскай прайшоў. Лёгка ў нас умеюць вырашаць надзённыя пытанні. Адным дарожным знакам перакрэслілі і праблему, і цэлую вёску.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

## ВАЛОЖЫН

### Міліцыя нікога не цікавіць?

Калегі з раённай газеты "Працоўная слава" арганізавалі і правялі "прамую лінію" з кіраўніцтвам і прадстаўнікамі службаў аддзела ўнутраных спраў.

Пытанняў было на здзіўленне мала: ці то насельніцтва стала зусім абыякавым, ці то міліцыя працуе надта ўжо добра. За 2 месяца па лініі ўсіх службаў РАУС раскрыта 68 злачынстваў з 88. 55 крымінальных спраў накіравана ў суд, што значна больш за папярэднія гады.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## ВАЛОЖЫН.

# Японская экспансія

Кіраўнік ініцыятывы па аздараўленні беларускіх дзяцей у Японіі Херосі-сан наведаў раён.

Калі раней краіну Узыходзячага сонца наведвалі толькі вучні райцэнтраўскай СШ №1, то цяпер будуць запрошаныя дзеці і з Івянецкай, Пяршайскай сярэдніх школ.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## ГАСЦЁЎНЯ "РГ"

чай аб значных падзеях, маючых месца звычайна ў цэнтры дзяржавы. Мы ж стараемся рэгіянальнай інфармацыяй адвавіць гэты прагал. Як вы знаеце, у нас ёсць спецыяльная рубрыка "Рэгіянальны дзённік" - і яна, паводле нашых звестак, даволі папулярная ў слухачоў.

Што тычыцца вяшчання на ваш рэгіён. Маладзечаншчына - рэгіён даволі вялікі. І, як паказваюць нашы даследаванні, хвалі нашай радыёстанцыі тут прымаюцца больш-менш роўна па ўсёй тэрыторыі. Мы, натуральна, хацелі б палепшыць якасць прыёму. Для гэтага былі б не супраць заангажаваць мясцовыя рэтранслятары і плаціць грошы мясцовым структурам. На жаль, беларускія ўлады не дазваляюць нам заключыць такія дагаворы. Таму наша інвестыцыя ў гэты рэгіён ніяк не можа ажыццявіцца.

- Вашае меркаванне аб "Рэгіянальнай газеце"?

- Такой павінна быць у Беларусі лакальная незалежная прэса. Добра, што "РГ" выпускаецца па-беларуску. Яна імкнецца даць шмат гістарычных і краязнаўчых матэрыялаў і, такім чынам, піша гісторыю без "белых плямаў" свайго рэгіёна, а значыць, і ўсяе Беларусі. Да таго ж, мінскія газетчыкі, навукоўцы, з якімі давялося размаўляць на гэтую тэму, лічаць, што газета - прафесійная. Нездарма нашыя рэгіянальныя карэспандэнты вельмі часта спасылаюцца на гэтае выданне. Так што віншую "РГ" са 150-м нумарам.

# Пазыўныя Беларускай Службы РС:

Беларускі эфір без цэнзуры

У праграме:

... мітынгі, дэманстрацыі, страйкі, галадоўкі, пікеты, шэсці, арышты, суды, турмы, апазіцыя, улада, беларуская мова, рэгіёны, эканоміка, культура, гісторыя, міжнародныя навіны...

Спецыяльныя перадачы:

... Пражскі акцэнт, Вострая Брама, Рэтраспекцыі, Чытальная заля, Правы чалавека, Блізкая Еўропа, Неабжытая спадчына, Сымбаль веры...

Новыя хвалі і частоты (да 28 сакавіка 1998)

18:00 - 19.30    6170, 7155, 7295
49, 41

22:00 - 23:30    6095,6170, 7155, 9750
49, 41,31

06:00 - 07:00    5995, 7295, 9750
49, 41, 31

У 22:00 беларускую праграму можна слухаць у Internet:

http: www.rferl.org/bd/be/index.html

Паштовы адрас: 220005, Мінск-5, п/с 111.

## КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Мытнік за мытнікам

***АСТРАВЕЦ. Практычна па такім сцэнарыі адбываюцца апошнімі месяцамі суды. Адзін за адным супрацоўнікі мытні атрымліваюць адпаведныя тэрміны.***

На мінулым тыдні адбыўся суд над 28-гадовым былым старшым інспектарам **Віктарам Буйко**. Яго прызналі вінаватым у атрыманні хабару ад правадніцы цягніка "Вільнюс-Масква" (у 20 доляраў ЗША) і адной з пасажырак (у 100 доляраў ЗША). У абмен на гэта мытнік абавязваўся прапусціць іх без збору грошай для аплаты мытнай пошліны за правозімы тавар.

Прысуд Астравецкага райсуда - тры гады "хіміі".

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

# Урачыстасць з трупам...

ВІЛЕЙКА. Падчас урачыстага святкавання Дня міліцыі на сцэне гарадскога Дома культуры падарункі ўручалі не толькі людзям у пагонах. Яшчэ іх атрымалі тыя, хто міліцыі дапамагае - старшыні калгасаў **Генадзь Кучко, Анатоль Якжык**, прараб будаўнік **Васіль Кановіч**, супрацоўнік УКБ райвыканкома **Раіса Зінчук**, а таксама старшыні гар-райвыканкомаў **Пётр Юдо** і **Іван Шнітоўскі**.

Пакуль праходзіла мерапрыемства і хлопцы, што толькі пачалі служыць, на сцэне прымалі прысягу, у Ерхах знайшлі труп 75-гадовага вяскоўца. А супрацоўнікі ДАІ затрымалі двух п'яных вадзіцеляў.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

# ... і грашыма

***СМАРГОНЬ. Калегі з раёнкі "Светлы шлях" Тэрэса Кумішча і Міхаіл Разумнік за асвятленне міліцэйскай тэматыкі аддзелам РАУС узнагароджаныя грашовымі прэміямі па 300 тысяч.***

Трыма "мінімалкамі" і ганаровымі граматамі райвыканком адзначыў трох лепшых міліцыянераў.

Прэміі РАУС сваім супрацоўнікам былі больш грунтоўныя - па 300, 500, 700 тысяч.

*Аддзел інфармацыі.*

## ПАНЯДЗЕЛАК 9 САКАВІКА

Імяніны: пр. Івана; кат. Кацярыны, Даменіка.

### БТ

**07.00** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Резонанс.
**08.50** Телебарометр.
**09.05** "Сегодня с вами..."
**09.45** "О весна, без конца и без краю..."
**09.55** М/ф.
**10.05** "Я рисую".
**10.20, 18.20** Сериал "**По ту сторону рая**".
**11.15** Здоровье.
**11.40** Бездельник.
**12.10** Теленавигатор.
**12.30** А музыка звучит
**13.00, 15.00, 18.00, 00.25** Новости.
**13.10** "**Чапаев**". Х/ф
**14.40** Параграф.
**15.15** Курс фр. языка.
**15.45** ТВ школе.
**16.15** О весна
**16.30** Регион.
**17.00** "По Венгрии". Д/ф.
**17.30** Гости в дом. Женщина в мире.
**19.20** Хит-парад.
**19.25** "Сегодня с вами..."
**20.05** "Морской бой"
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** "Понедельник с "Христофором".
**22.10** Х/ф "**Девять дней одного года**".
**23.55** Третий тайм.

### ОРТ

**09.00, 14.00, 22.35** Новости.
**09.10** Крестьянские ведомости.
**09.40** Играй, гармонь любимая!
**10.15** Америка с М.Таратутой.
**10.45** М/ф.
**10.55** "Подводная одиссея команды Кусто".
**14.20** Футбольное обозрение.
**14.50** КВН-ассорти.
**15.20** "Чердачок Фруттис".
**15.55** Боевик "**Динозавр Теодор Рекс**".
**17.35** Угадай мелодию.
**18.10** Х/ф "**Клеопатра**". 1-я с.
**19.45** Спокойной ночи!
**20.00** Время.
**20.35** "**Клеопатра**". 2-я с.
**22.45** "Музыка их сердец".

### РТР

**06.00** Утренний экспресс.
**06.50** Служу Отечеству.
**07.20** М/ф.
**07.45** Д/фильмы.
**09.05** Маски-шоу.
**09.50** Доброе утро, страна.
**10.35** Почта РТР.
**10.45** "Аншлаг" и Ко.
**11.40** "Из личной жизни братьев Пилотов". М/ф.
**12.05** "Там-там".
**13.00, 19.00** Вести.
**13.30** Финал конкурса "Женщина-97. Мужчина-97".
**15.05** "Закон и порядок".
**15.55** Д/ф "Естественный отбор".
**16.55** Очевидное – невероятное.
**17.30** Старая квартира.
**19.35** "СВ-шоу".
**20.10** 10 лет Дому моды "Валентин Юдашкин".
**23.25** Автошоу.
**23.55** Вовремя.

### КУЛЬТУРА

**07.05** Музыка.
**07.20** Х/ф "**Волшебный голос Джельсомино**". 2-я с.
**08.25** Люди в моде.
**08.40** К.Сомов.
**09.00** Телесуфлер.
**09.15** Книжный кладезь.
**09.30** Парадоксы истории.
**10.00** О пользе традиций, или Русские в Англии.
**11.05** Композитор Андрей Петров.
**11.35** "Заметки из Иерусалима".
**11.45** Спектакль "Щелкунчик".
**13.00, 21.00** Новости культуры.
**13.20** Окно в природу.
**13.45** Короче говоря.
**14.10** Какой молодец этот Зощенко.
**14.50** М/ф.
**15.10** Египетские дни и ночи.
**15.30** Фильм-концерт
**17.00** Новости.
**17.05** "2003".
**17.15** Международное обозрение.
**17.45** "Сокровища
**18.00** Д/ф
**18.50** М/ф.
**19.00** Чудо-сказка.
**19.15** "Искренне Ваш..." Роман Карцев.
**20.20** "Поцелуй цыганки". Часть 2-я.
**21.25** "Я гений, Игорь Северянин".
**21.35** Х/ф "**Неоконченная любовь**".

### НТВ

**07.00** Комедия "**Весна**".
**08.45** М/ф.
**09.00** Сегодня
**09.10** "**Крутой Уокер**"
**10.00** Х/ф "**Зена - королева воинов**"
**10.45** М/ф.
**11.00, 15.00** Сегодня
**11.20** Комедия "**Трое в лодке, не считая собаки**".
**13.35** Лучшие цирки мира.
**15.20** "Улица Сезам".
**15.55** Маски-шоу.
**17.35** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня
**18.40** Куклы
**18.50** М/ф
**19.00** Комедия "**Бриллиантовая рука**".
**21.35** "**Крутой Уокер**".
**22.25** Синемания. все о кино.
**23.05** Х/ф "**Чтица**" (Франция).

### ТВ-6

**06.05** Видеоклипы.
**06.20, 22.15** ДИСК-канал.
**07.05, 23.05** Патруль.
**07.20** М/ф.
**07.55** "Ганс Рекле и черт".
**09.20** "Новый Геркулес".
**09.55** Спорт недели.
**10.30, 13.30, 22.05** ТСН-6.
**10.40** "О.С.П.-Студия".
**11.30** Х/ф. "**Люди и манекены**"
**12.40** Видеоклипы
**13.00** "**Таинственный остров**"
**13.40** Х/ф. "**Люди и манекены**"
**15.10** М/ф.
**15.50** Акулы политпера
**16.45** Х/ф "**Жестокий романс**"
**19.30** Новости дня
**19.55** Триллер "**Бесстрастный свод небес**"

## АЎТОРАК 10 САКАВІКА

Імяніны: пр. Пракопа, Тараса; кат. Марцэля, Цыпрыяна.

### БТ

**07.00** Доброе утро!
**08.00, 13.00, 15.00, 18.00, 00.10** Новости.
**08.15** Сегодня с вами...
**08.50** Премьера песни.
**09.05** ТВ - школе.
**09.35** Туробъектив.
**09.55** О весна
**10.05** Усадьба.
**10.30** Х/ф "**Земля кладов**".
**11.00, 18.20** "**По ту сторону рая**".
**11.50** Сельчане.
**12.15** Автопарк.
**12.25** Музыка без границ.
**13.15** Телеспектакль.
**13.30** "Выбранный путь".
**13.55** Четвертое измерение.
**14.20** Компьютерный полигон.
**14.40** "Макаенка, 9".
**15.40** "Накануне будущего".
**16.05** М/ф.
**16.20** "О весна, без конца и без краю..."
**16.30** Уроки Н.Новожиловой.
**17.00** "Не о себе мои заботы".
**17.25** Многоголосие.
**19.20** Белорусский хит-парад.
**19.25** "Сегодня с вами..."
**20.05** Музыкальный салон с Элеонорой Езерской.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** "Спикер-хата".
**22.10** "**Москва - Генуя**". Х/ф.
**23.50** Международные спортивные новости.

### ОРТ

**17.00, 22.35** Новости.
**17.20** "**Роковое наследство**".
**18.05** Час пик.
**18.30** Угадай мелодию.
**19.00** Тема.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Х/ф "**Мистер Икс**".
**22.45** Комедия "**Лак для волос**".

### РТР

**13.00, 16.00, 19.00, 22.30** Вести.
**13.35** Сериал "**Женщина**" (Италия).
**14.30** "**Маленький бродяга**".
**15.05** "Космодром".
**17.00** Любовь с первого взгляда.
**17.35** Кинокомедия "**Вальс золотых Тельцов**"
**19.30** Подробности.
**19.45** "**Санта-Барбара**".
**20.50** Довгань-шоу.
**21.20** "**Петербургские тайны**".
**22.55** Дежурная часть.
**23.10** Горячая десятка.
**00.05** "Империя стиля"

### КУЛЬТУРА

**07.05, 13.00, 19.30, 23.00** Новости культуры.
**07.20** Музыка.
**07.35** Д/ф.
**08.25** "Сокровища Петербурга".
**08.40** Хореограф Н.Огрызков.
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Х/ф "**Неоконченная любовь**".
**11.05** Новгород
**11.35** Кузебай Герд.
**12.35** Ноу хау.
**12.50** "Культура городов мира".
**13.20** Спектакль "Наследники Рабурдена".
**15.05** "Челленджерс".
**15.30** "Путешествие во времени".
**16.25** "Лукоморье".
**16.45** Компьютер.
**17.05** "2003".
**17.10** "Русская усадьба".
**17.35** "Негаснущие звезды".
**18.00** Д/ф.
**18.55** "Время, портреты, судьбы". В.И.Даль.
**19.15** Чудо-сказка.
**19.50** "Музыкальная хроника".
**20.15** Такие разные люди.
**20.45** После новостей...
**21.05** Х/ф "**Роберт и Клара**".
**22.40** Цветами убранная юность.

### НТВ

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05** "**Крутой Уокер**".
**09.15** Криминал.
**09.35** "Русский век".
**10.00** Пойми меня.
**10.30** Дог-шоу.
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** "**ТАСС уполномочен заявить**". Часть 11-я.
**13.15** Х/ф "**Невероятные приключения итальянцев в России**".
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "**Любовь и тайны Сансет Бич**".
**16.40** Д/ф "Шпионы".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.30** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня
**18.40** Герой дня.
**19.00** Детектив "**Флетч**" (США).
**21.50** "**Крутой Уокер**".
**22.40** Сегоднячко.
**23.15** Сегодня в полночь.
**23.40** "Золотой граммофон".
**23.50** Ток-шоу о наркоманах и для наркоманов "Сумерки".

### ТВ-6

**06.05, 16.50** Видеоклипы.
**06.20** М/ф.
**06.40, 16.05, 22.55** ДИСК-канал.
**07.00, 16.35, 23.45** Дорожный патруль.
**07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 22.45** ТСН - 6.
**07.45, 10.40** Знак качества
**08.00** "Третья планета от солнца".
**08.35** "Новый Геркулес".
**09.35** Катастрофы недели.
**10.05** М/ф "Фантик".
**10.55** Пальчики оближешь
**11.25** Пенза
**11.55** Акулы политпера
**13.40** Х/ф "**Удар! Еще удар!**"
**17.00** Те Кто.
**18.00** "Третья планета от солнца".
**18.30** Ток-шоу Крупенина. "Искусство обольщения".
**19.30** "Новости дня".
**19.55** "Вавилон 5".
**20.50** Триллер "**Мужчина в белом**" (США).
**00.00** "**Фрейм ап.Ловушка**"

## СЕРАДА 11 САКАВІКА

Імяніны: пр. Парфірыя, Севасцьяна; кат. Канстанціна.

### БТ

**07.00** Доброе утро, Беларусь!
**08.00, 13.00, 15.00, 18.00, 00.35** Новости.
**08.15** "Сегодня с вами..."
**08.50** Музантракт.
**09.05** ТВ — школе.
**09.30** "Мультиклуб".
**10.00** Гости в дом.
**10.30** Око.
**10.50** "Бархатный сезон".
**11.25** Видимо-невидимо.
**12.30** "А музыка звучит..."
**13.15** Х/ф "Весна".
**15.15** Курс фр. языка.
**15.45** 5 х 5
**16.15** Д/ф.
**16.40** Окружающая среда.
**17.00** "Художник возрождается в учениках".
**17.30** Судьба моя и надежда.
**18.20** Киноальманах "Беларусь".
**18.30** *Гандбол. Чемпионат Европы. Беларусь — Польша.*
**20.00** "Сегодня с вами..."
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** "Киностружка".
**22.15** М. Паре и М. Макдауэлл в Х/ф "**Луна-44**" (Германия).
**23.55** Королевская охота.
**00.50** Темная комната.

### ОРТ

**17.00, 23.25** Новости.
**17.20** "**Роковое наследство**".
**18.05** Час пик.
**18.30** "Золотая лихорадка".
**19.10** Человек и закон.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Боевик "**Бегущий человек**", А. Шварценеггер (США)
**22.40** Док. детектив.

### РТР

**13.00, 16.00, 19.00, 22.30** Вести.
**13.35** "Женщина".
**14.30** "**Маленький бродяга**".
**15.05** "Космодром".
**16.30** На дорогах России.
**16.45** Кроссворд.
**17.15** Х/ф "**Джокер**"
**19.30** Подробности
**19.45** "**Санта-Барбара**"
**20.45** Сам себе режиссер
**21.20** "**Петербургские тайны**"
**22.55** Дежурная часть.
**23.10** Живая коллекция.

### КУЛЬТУРА

**07.05, 13.00, 19.30, 23.00** Новости культуры.
**07.20** Музыка
**07.35** Русская усадьба
**08.00** Негаснущие звезды
**08.25** Искусство сновидения.
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Х/ф "**Роберт и Клара**".
**10.40** Египетские дни и ночи.
**11.05** Поют солисты Мариинки.
**11.30** Программа передач.
**11.35** Спектакль
**12.35** Японский калейдоскоп.
**12.45** Вместе с Фафалей.
**13.20** "Встречи на Воздвиженке". Писатель Б.Васильев.
**14.15** "Карильон". Конкурс звонарей в Бельгии.
**14.45** Время книг.
**15.05** "**Челленджерс**".
**15.30** "Путешествие во времени".
**16.10** Светская хроника.
**16.25** "Лукоморье".
**16.45** Компьютер.
**17.05** "2003".
**17.10** Академия спорта.
**17.30** Апарт. "Балтийский дом-97".
**18.00** "Апокриф". "Жизнь с идиотом".
**19.15** Чудо-сказка.
**19.50** "Люди театра". Владимир Самойлов.
**20.20** "Романсиада-98". Всероссийский конкурс молодых исполнителей русского романса.
**20.45** После новостей...
**21.05** Х/ф "**Шушу**".
**22.40** Два Владимира в поисках света.

### НТВ

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05** "**Крутой Уокер**".
**09.15** Полицейские будни.
**09.30** Герой дня без галстука.
**10.00** "Пойми меня".
**10.30** Куклы.
**10.40** "Среда".
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** "**ТАСС уполномочен заявить**". Часть 12-я.
**13.20** Киноэпопея "**Подвиг Одессы**". 1-я с.
**14.25** Свадьба. Истории любви.
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "**Любовь и тайны Сансет Бич**".
**16.40** Д/ф "Шпионы".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.35** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня
**18.40** Герой дня.
**19.00** Детектив о пронырежурналисте "**Флетч жив**" (США).
**21.50** "**Крутой Уокер**".
**22.40** Сегоднячко.
**23.15** Сегодня в полночь.
**23.40** М/ф "Байки из склепа".

### ТВ-6

**06.05, 11.45, 16.50** Видеоклипы.
**06.20** М/ф.
**06.40, 16.05, 22.55** ДИСК-канал.
**07.00, 16.35, 23.45** Дорожный патруль.
**07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 22.45** ТСН - 6.
**07.45, 10.40** Знак качества
**08.00** "Третья планета от солнца".
**08.30** "Новый Геркулес".
**09.40** "**Вавилон 5**".
**10.55** "Вы-очевидец".
**11.20** Док.сериал. "Великие тайны и мифы XX века".
**11.55** Искусство обольщения
**13.40** Комедия "Первая перчатка".
**17.00** Те Кто.
**18.00** "Третья планета от солнца".
**18.30** Ток-шоу "Я сама".
**19.30** "Новости дня".
**19.55** "**Вавилон 5**".
**20.50** Х/ф "**Мужики**".
**00.00** Х/ф "**Самое сексуальное животное**"

## ЧАЦВЕР 12 САКАВІКА

Імяніны: пр. Пракопа, Ціта; кат. Алоіза, Максіміліяна.

### БТ

**15.00, 18.00, 00.25** Новости.
**15.15** ТВ — школе.
**15.45** "Телек-шоу".
**16.00** Родное слово.
**16.35** Четвертое измерение.
**17.00** "Березинский заповедник".
**17.10** Концертный сезон.
**18.20** "По ту сторону рая".
**19.15** Белорусский хит-парад.
**19.20** "Сегодня с вами..."
**20.00** Сделано в Беларуси.
**20.15** Криминальная хроника.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** "Марсово поле".
**22.15** "**Отцы и сыновья**". Х/ф (США).
**23.55** Крок.
**00.40** Акколада.

### ОРТ

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.55** Новости.
**08.15** "**Роковое наследство**".
**09.00** Человек и закон.
**09.35** Пока все дома.
**10.20** Домашняя библиотека.
**10.25** "Эти забавные животные".
**11.15** "Вместе".
**14.20** М/ф "Невероятные приключения Джонни Квеста".
**14.45** Классная компания.
**15.15** Лего-го!
**15.40** "**Новые приключения Робин Гуда**".
**16.10** ...До шестнадцати и старше.
**16.30** Вокруг света.
**17.20** "**Роковое наследство**".
**18.05** Час пик.
**18.30** "Эти забавные животные".
**19.05** "В поисках утраченного". Валентина Караваева.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Ирина Муравьева и Александр Абдулов в мелодраме "**Карнавал**".
**23.30** "Каскадеры. Мир трюков".

### РТР

**13.00, 16.00, 19.00, 22.30** Вести.
**13.35** "**Женщина**".
**14.30** "**Маленький бродяга**".
**15.05** "Космодром".
**16.35** Почта РТР.
**16.50** Любовь с первого взгляда.
**17.25** Х/ф "**Семейная мелодрама**".
**19.30** Подробности.
**19.45** "**Санта-Барбара**".
**20.50** Национальная театральная премия "Золотая маска".
**22.55** Дежурная часть.
**23.10** Подиум д'арт.
**23.35** Лучшие игры НБА.

### КУЛЬТУРА

**07.05, 13.00, 19.30, 23.00** Новости культуры.
**07.20** Музыка
**07.35** Академия спорта.
**07.55** Апарт. "Балтийский дом-97".
**08.20** "Вчера, — а как оно далече..."
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Х/ф "**Шушу**".
**10.40** "Время, портреты, судьбы". В.И.Даль.
**11.05** Тихвинский собор.
**11.30** Программа передач.
**11.35** Вместе с Фафалей.
**11.55** Спектакль "Все кончено".
**14.30** Образ жизни.
**15.05** "Челленджерс".
**15.30** "Путешествие во времени".
**16.15** "Культура городов мира".
**16.25** "Лукоморье".
**16.45** Компьютер.
**17.05** "2003".
**17.10** Спектакль "Парсифаль".
**18.00** Новое кино.
**18.25** "Исповедь". Видеофильм.
**18.45** Играет "Вивальди оркестр".
**19.15** Чудо-сказка.
**19.50** "Академический час". Светлана Крючкова.
**20.45** После новостей...
**21.05** "Возвращение к себе". В.Васнецов.
**21.35** Х/ф "**Собака на сене**". 1-я с.
**22.40** В.Астафьев. "Время — миру".

### НТВ

**05.00, 09.00** Сегодня
**08.05** "**Крутой Уокер**"
**09.15** Своя игра.
**09.45** Век футбола.
**10.15** Перехват.
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** "**ТАСС уполномочен заявить**". Часть 13-я.
**13.20** Х/ф "**Подвиг Одессы**". 2-я с.
**14.40** Х/ф "**Поговорим на моем языке**".
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "**Любовь и тайны Сансет Бич**".
**16.40** Д/ф "Шпионы".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.35** Хоккейный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Фантастический фильм "**Космические дальнобойщики**" (США).
**21.50** "**Крутой Уокер**".
**22.40** Сегоднячко.
**23.15** Сегодня в полночь.
**23.40** Баскетбол.
**23.55** М/ф "Байки из склепа".

### ТВ-6

**06.05, 16.50** Видеоклипы.
**06.20** М/ф.
**06.40, 10.55, 16.05, 23.00** ДИСК-канал.
**07.00, 16.35, 23.45** Дорожный патруль.
**07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 22.50** ТСН - 6.
**07.45, 10.40** Знак качества
**08.00** "Третья планета от солнца".
**08.30** "Новый Геркулес".
**09.40** "**Вавилон 5**".
**11.35** "Место происшествия".
**12.00** Ток-шоу "Я сама".
**13.40** Х/ф "**Старый наездник**".
**17.00** Те Кто.
**18.00** "Третья планета от солнца".
**18.30** Ток-шоу "Сделай шаг".
**19.30** "Новости дня".
**19.55** "**Вавилон 5**".
**20.50** Комедия "**Мужчины за работой**" (США)
**00.00** Х/ф "**Деловая вечеринка**" (Канада)




## ПОНЕДЕЛЬНИК

### НАШЕ КИНО

**9.00** "Сватовство гусара" **10.10** Комедия "Женитьба" **11.45** "Женщины шутят всерьез". **13.05** Мелодрама "Эта женщина в окне..." **14.30** "Женщина для всех". **15.50** Киносказка "Новый Гулливер". **17.00** "Чапаев". **18.30** Киноновелла "Консультант по эпохе". **19.00** "Идеальный муж". **20.30** "Пес Барбос и необычный кросс". **20.40** "Красавец-мужчина". II серии.

### МИР КИНО

**9.35** "Истории голливудских холмов" (США) **10.30** "Мосты округа Мэдисон" (США) **12.40, 22.45** Новости кино. **12.50** "Мэверик" (США) **14.55** "Фарго" (США) **16.30** "Тельма и Луиза" (США) **18.40** "Сыскное агентство "Текс". **19.35** "Летняя история" (Вел) **21.10** "Рожденный бежать" (США) **22.55** "Золото" (Вел)

### СПОРТ

**6.00** Итоги. Спорт. **6.30, 14.15** Уроки. **6.45, 11.15** Аэробика. **7.10, 22.00** Шахматы. **7.40** Большой ринг. **8.55** Футбол. Чемп. Италии. **10.50, 14.00, 20.00, 22.30** Новости. **11.30** Мир паруса. **12.00** НБА. "Лос-Анджелес Лейкерс" - "Сан-Антонио Спэрс". **14.30** Настольный теннис. **16.30** Щит и мяч. **17.00, 22.45** Железный фактор. **17.45** Золотой фонд. **19.00, 23.30** Футбол. Обзор чемп. Германии. **20.20** Футбол. Матч бразильского чемпионата.

## ВТОРНИК

### НАШЕ КИНО

**9.00, 19.35** "Берега". **10.10** "Чапаев". **11.40** "Идеальный муж". **13.10** "Красавец-мужчина". II серии. **15.10, 17.00** "Мелочи жизни". **16.10, 18.00** Новости кино. **16.20** "Сто грамм для храбрости". **18.10** "Дети капитана Гранта". **20.45** "Роковые яйца".

### МИР КИНО

**9.35, 17.55** "Сыскное агентство "Текс". **10.25, 20.20** Шэрон Стоун (крупный план). **10.50** "Летняя история" (Вел) **12.25, 22.30** Новости кино. **12.35** "Золото" (Вел). **14.35** "Рожденный бежать" (США) **16.10** Криминальная мелодрама "Письма незнакомому влюбленному" (Вел - Фр). **18.50** Комедия "Привет, дорогая, я умер" (США). **20.40** "Специалист" (США). **22.40** Драма П. Ньюмана "Воздействие гамма-лучей на произрастание маргариток".

### СПОРТ

**6.00, 11.00, 14.00, 20.00, 23.00** Новости. **6.15, 14.15** Уроки. **6.30, 11.15** Аэробика. **6.55** Железный фактор. **7.40** Шахматы. Супертурнир в Линаресе. **8.10** Футбол. Обзор чемп. Германии. **9.10** Футбол. Матч бразильского чемпионата. **11.40, 18.05** Международное конное шоу из США. **12.45** Журнал ФИФА. **13.15** Неделя НХЛ. **14.30** Снеговое шоу в Берси. **16.00** Прыжки в высоту "Кубок Москвы". **19.10** Рядом. **19.30, 23.15** Футбол. Обзор чемп. Испании. **20.20, 23.45** Футбол. Обзор чемп. Англии. **21.15** Ледовое шоу. **22.20** Обозрение НБА.

## СРЕДА

### НАШЕ КИНО

**9.00, 20.20** "Берега". **10.15** Кинофантастика. "Роковые яйца". **12.15, 17.00** "Мелочи жизни". **13.10, 18.00** Новости кино. **13.20** Кинодрама "Бег". II серии. **16.25** "Ангел". **18.05** Театр в кино. "Артистка из Грибова". II серии. **21.25** "Искренне ваш..."

### МИР КИНО

**9.35, 18.15** "Сыскное агентство "Текс" (Вел) **10.30** "Письма незнакомому влюбленному". **12.10, 22.20** Новости кино. **12.20** Комедия "Привет, дорогая, я умер" (США). **13.50** Драма "Кукла" (Польша) **16.25** "Специалист" (США). **19.10** Триллер "Седьмой этаж" (Австралия). **20.55** "Внутренний огонь" (США). **22.30** "Угадай кино". Фильм-загадка.

